На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№146 (1959)
Аўторак, 10 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +22...+24, дождж, уначы — +15...+17, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +23...+25, дождж, уначы — +14...+16, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +23...+25, дождж, уначы — +15...+17, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +22...+24, навальніца, уначы — +14...+16, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +24...+26, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +26...+28, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Намалочана больш за два мільёны тон збожжа

*Побач з мінскімі кварталамі.*

Фота photo.bymedia.net

На даных на ўчарашні дзень, у краіне скошаны збожжавыя і зернебабовыя культуры на плошчы, якая складае 29 працэнтаў ад наяўнай. Намалочана больш за два мільёны тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць складае 32 цэнтнеры з гектара.

**Яўген ТАЎТЕНЬ.**

## З 8 жніўня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў

Згодна з Выбарчым кодэксам, зрабіць гэта можна трыма спосабамі — шляхам збору адной тысячы подпісаў грамадзян, якія жывуць у дадзенай выбарчай акрузе, ад палітычнай партыі або ад працоўнага калектыву з колькасцю працоўных не менш за 300 чалавек.

Акруговыя выбарчыя камісіі прыступілі да рэгістрацыі ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты, якая будзе доўжыцца да 12 жніўня ўключна. Завяршыцца этап вылучэння 6 верасня. Затым, з 7 па 16 верасня, будзе праходзіць рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты.

З 17 верасня зарэгістраваныя кандыдаты змогуць прыступіць да агітацыйнай кампаніі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Баранавіцкі аркестр едзе ў Францыю

Афіцыйнае запрашэнне ўзяць удзел у штогадовым Міжнародным фальклорным фестывалі ў Францыі атрымаў калектыў Баранавіцкага гарадскога канцэртнага аркестра. Музычны форум адкрыецца 18 жніўня ў французскім горадзе Ангулеме. "Арганізатар музычнага свята — артыстычнае агенцтва Алана Бланшара — ужо ў восьмы раз запрашае музыкантаў з Баранавіч на гэты традыцыйны фестываль еўрапейскай народнай творчасці.

Фестываль, які працягнецца да пачатку верасня, будзе праходзіць у чатырох гарадах Францыі, планеецца ўдзел аркестраў з 12 еўрапейскіх краін, сярод якіх вядомыя музычныя калектывы з Германіі, Чэхіі, Румыніі, Італіі і іншых дзяржаў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## МАЗ паставіць у Маскву 20 аўтобусаў, прызначаных для перавозкі інвалідаў

Мінскі аўтамабільны завод у жніўні гэтага года паставіць у Маскву 20 аўтобусаў, прызначаных для перавозкі інвалідаў. Пастаўка ажыццяўляецца па заказе мэрыі расійскай сталіцы. У Маскву ўжо адпраўлена 5 аўтобусаў. Агульны аб'ём паставак складзе 25 штук.

Аўтобусы, прызначаныя для перавозкі інвалідаў, аснашчаны сістэмай клірынгу і адкідным трапам. Акрамя таго, у іх устаноўлены турнікет, на якім ёсць электроннае прыстасаванне, якое дазваляе ажыццяўляць аплату з дапамогай спецыяльнай карты. Наяўнасць у аўтобусе турнікета дазваляе ажыццяўляць кантроль аплаты за праезд і вызначаць колькасць пасажыраў, перавезеных аўтобусам.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Суд решил...

Суд Ленинского района г.Минска
**РЕШИЛ:**

Признать сведения, опубликованные в статье “Элеонора Езерская: ”Пять пудов любви я гарантирую" Известная телеведущая Элеонора Езерская пишет книгу О любви", в газете “Народная Воля” от 10 октября 2001 года № 190 (1254)), а именно:

— “Моя передача не выходит из-за трех человек, которые умудрились превратить Белорусское телевидение в руины. Их фамилии, по моему, уже знает вся страна — Рыбаков, Хрусталев и примкнувший к ним Доморацкий. На совести этих людей сегодня, говорят, не только смерть юной и талантливой Юлии Космачевой, но и экс-председателя Телерадиокомпании, честнейшего и порядочнейшего человека Валерия Скворцова”, — не соответствующими действительности, и порочащими честь, достоинство и деловую репутации Рыбакова Егора Владимировича.

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

# Ці паедзе Юрый Сівакоў на Алімпіяду?

**Як паведамляла ўжо «Народная воля», прыезд кіраўніка беларускай спартыўнай дэлегацыі на Алімпіяду ў Афінах Юрыя Сівакова знаходзіцца пад пытаннем**

Па рашэнні Еўрасаюза Грэцыя адмовіла ва ўездзе ў краіну Юрыю Сівакову. Еўрапейскі Саюз прыняў заяву, у якой адзначаецца, што *“прысутнасць міністра спорту і турызму на Алімпійскіх гульнях у Афінах зусім немэтазгодная”. У заяве падкрэсліваецца, што Юрый Сівакоў названы адной з ключавых фігур у спецыяльным дакладзе Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў сувязі з маючымі месца выпадкамі знікнення людзей у Беларусі. У сувязі з гэтым кіраўніцтва Еўрасаюза лічыць, што Юрыя Сівакова не варта дапускаць да ўдзелу ў гэтым знамянальным спартыўным мерапрыемстве".*

У сваю чаргу вечарам у пятніцу беларускае Міністэрства ўнутраных спраў агучыла сваю заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца:

*“Беларускі бок не бачыць прычын і падстаў для адмовы ва ўездзе ў Грэцыю старшыні беларускай алімпійскай дэлегацыі. Ні ў заяве галандскага Прадстаўніцтва Еўрапейскага Саюза, ні ў заяве прэс-сакратара МЗС Грэцыі не ўтрымліваецца ніякіх перакаsuccessful фактаў, а тым больш доказаў наконт нейкай супрацьзаконнай дзейнасці з боку кіраўніка беларускай алімпійскай дэлегацыі”.*

Таксама ў гэтай заяве беларускі бок заклікаў *“краіны — члены Еўрасаюза і краіны, якія далучыліся да заявы прадстаўніцтва Еўрасаюза, неадкладна перагледзець прынятыя рашэнні ў адносінах да кіраўніка беларускай дэлегацыі ў Афінах і адмовіцца ад палітыкі ціску і шантажу ў адносінах да Рэспублікі Беларусь”.*

Аднак пытанне, якое вынесена ў загаловак, застаецца адкрытым. Каб хоць неяк праясніць сітуацыю, журналіст “Народнай волі” патэлефанаваў прэс-сакратару міністра спорту і турызму **Анатолю Арцем’еву.** “Ці паляціць на Алімпіяду Юрый Сівакоў?” — запытаўся я. *“Нічога адказаць не магу. Тэлефануйце ў Нацыянальны Алімпійскі камітэт і МЗС, яны займаюцца гэтым пытаннем...”* Тэлефаную ў НАК Беларусі. Задаю тое ж самае пытанне. Чую ў адказ: *“Ці адправіцца Сівакоў на Алімпіяду, дакладна сказаць не можам. Мы прынялі заяву, якую накіравалі ў Міжнародны Алімпійскі камітэт і шэраг іншых еўрапейскіх алімпійскіх інстанцый”.* У заяве, падпісанай віцэ-прэзідэнтам НАК Беларусі **Аляксандрам Мядзведзем**, у прыватнасці, гаворыцца: *“Выканкам Нацыянальнага Алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь патрабуе склікаць Выканкам Міжнароднага Алімпійскага камітэта, разабрацца ў дадзенай сітуацыі і аднавіць справядлівасць у адносінах да Юрыя Сівакова і беларускай алімпійскай дэлегацыі ў цэлым”.*

Адказу на канкрэтнае пытанне “Народная воля” не атрымала. Апошняя надзея была на прэс-сакратара МЗС **Андрэя Савіных.** “Тэлефануйце Сівакову”, — сказаў ён. Адказваю, што з Мінспорта я ўжо звязваўся і там параілі патэлефанаваць у МЗС. *“Увогуле пытанне, ляцець ці не ляцець, — гэта толькі яго намер. Правільна? Што датычыцца агульнай сітуацыі, то ёсць жа заява МЗС на гэты конт. І нічога новага”,* — заявіў Савіных.

Карацей кажучы, сітуацыя вакол Юрыя Сівакова развіваецца толькі на паперах. Прымаюцца заявы, але ніхто нічога канкрэтнага наконт таго, ці паляціць кіраўнік беларускай алімпійскай дэлегацыі ў Афіны, сказаць не можа. Ці адаб’ецца падобная валтузня са скандальным адценнем на беларускіх алімпійцах? Вось як лічыць трохразовы Алімпійскі чэмпіён **Уладзімір Парфяновіч:**

*“Мне вельмі шкада, што падобныя рэчы адбываюцца з беларускай дэлегацыяй. Чарговы скандал, і гэта зноў датычыцца беларускіх спартсменаў. Не думаю, што сітуацыя вакол Сівакова адаб’ецца на алімпійскіх выніках беларусаў. Гэта сітуацыя паўплывае на імідж нашай дэлегацыі, і не дай Бог, каб гэтая сітуацыя паўплывала на рашэнні суддзяў. Дарэчы, трэба было адразу прагназаваць, што гэтая сітуацыя вакол Юрыя Сівакова ўзнікнуць можа. Навошта гэтыя скандалы? У ідэале ў дэлегацыі павінна быць нармальная працоўная абстаноўка, якая б не перашкаджала спартсменам дабівацца высокіх вынікаў. А тут нікому не патрэбны скандал...”*

Літаральна за некалькі хвілін да падпісання нумара ў друк на сайце Міністэрства спорту і турызму з’явіўся каментарый самога Юрыя Сівакова, які запісаны са слоў міністра ягоным прэс-сакратаром. *“Па-першае, з пункта гледжання маральна-псіхалагічнага — гэта сур’ёзная траўма, і не толькі асабіста для мяне. Спадзяюся, нашы спартсмены і трэнеры зразумеюць усё правільна, а дзейнічаць у гэтай сітуацыі будуць годна. Па-другое, у плане славутай дэмакратыі і правоў чалавека. Сёння прагледжваецца дыяметральнасць уяўленняў аб дэмакратыі і правах. На жаль, насуперак нармальнай логіцы раз-пораз падзеі развіваюцца па вядомым народным выслоўі: ”Правы той, у каго больш правоў”. У амерыканскага кіраўніцтва, якое прэтэндуе на ролю гегемона сусветнага правапарадку, сваё меркаванне аб дэмакратыі, і што з гэтага атрымліваецца, мы бачым. Еўрасаюз таксама апошнім часам культывіруе сваю дэмакратыю. І выніку гэтай дзейнасці ўжо назіраюцца ў адкрытым зневажанні прынцыпаў алімпійскага руху.*

*Мы, славяне, на чале з Расіяй павінны праяўляць больш актыўнасці ў абароне ўстаноўленых міжнародных норм і правоў, а не заставацца пасіўнымі назіральнікамі.*

*Па-трэцяе: з пункта гледжання прэзумпцыі невінаватасці і сутнасці праблемы, вакол якой разгарэўся ўвесь гэты “сыр-бор”, магу сказаць толькі адно: ніхто не мае права называць чалавека злачынцам і выносіць яму прысуд без рашэння суда. Калі б у чыноўнікаў Еўрасаюза былі важкія доказы супраць мяне, то іх дзеянні, безумоўна, былі б абсалютна іншыя".*

Так ці інакш, але пакуль не вядома, хто ўзначаліць алімпійскую дэлегацыю нашай краіны ў Афінах.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ЧУЛІ?**

## Мінчан пазбавілі маршрутак

*У пятніцу, 6 жніўня, са сталічных дарог зніклі многія маршрутныя таксі. Па рашэнні Гаспадарчага суда забралі і “дэпартавалі” ў Германію 250 машын маркі “Мерседэс”, што належалі фірме “Міндаўг”.*

Дамоклаў меч над транспартнай арганізацыяй “Міндаўг” вісеў ужо даўно. Не так даўно на самым высокім узроўні было заяўлена пра тое, што “Міндаўг” не даплаціў у дзяржаўную казну круглую суму... Маўляў, праз мытню машыны перавезлі як грузавыя, а пасля пераабсталявалі пад пасажырскія. Уласна кажучы, ужо тады было зразумела, што гісторыя з маршруткамі не абмяжуецца толькі громкімі словамі-абвінавачваннямі і будзе мець свой працяг.

І вось адбылося. У пятніцу мінчан пазбавілі магчымасці ездзіць звыклым хуткасным відам транспарту — маршрутнымі таксі. Сталічныя жыхары не разумеюць: куды падзеліся зручныя жоўтыя “мерседэсы”? Размовы на прыпынках часам перарасталі ў стыхійныя мітынгі: людзі абураліся і бянтэжыліся. У выніку пасажыры вымушаны былі карэкціраваць свае маршруты, прыбягаючы да паслуг іншага віду транспарту.

Тое ж самае было і ў наступныя дні. Большасць маршрутаў, якія ажыццяўляў “Міндаўг”, не дзейнічалі. Пад маркай фірмы па некаторых маршрутах пасажыраў перавозілі толькі машыны “Форд”. “А што здарылася з іншымі машынамі?”, — пытаюся ў кіроўцы “міндаўгаўскай” маршруткі № 20. *“Да арыштавалі нас. Яшчэ ў пятніцу. За што — не ведаю, запытайцеся ў нашага кіраўніцтва”.*

На жаль, да кіраўніцтва “Міндаўга” нам датэлефанавацца так і не ўдалося. Тэлефон увесь дзень стаяў на аўтаадказчыку. У Гаспадарчым судзе Мінска нам у каментарыі адмовілі, спаслаўшыся на тое, што не маюць права выдаваць інфармацыю журналістам. Вось як нам пракаментавалі сітуацыю вакол “Міндаўга” ў прэс-службе Міністэрства транспарту Беларусі: *“Было рашэнне Гаспадарчага суда аб тым, каб забраць ”мерседэсы" фірмы “Міндаўг”. Гэтыя машыны, каля 250 штук, “Міндаўг” набыў у нямецкай фірмы ў лізінг — гэта такая форма крэдыту, вельмі папулярная зараз у транспартнай сферы. Але ўмовы крэдыту адносна грашовых выплат “Міндаўг” не выконваў,* — тлумачыць прэс-сакратар Мінтранспарту Эсміра ГОМАН. — *Нямецкі бок увесь час вымушаны быў ісці на уступкі... У рэшце рэшт немцы падалі на фірму ў Гаспадарчы суд. Суд вынес рашэнне: машыны адабраць і вярнуць нямецкаму боку. На дадзены момант маршруткі ўжо забраныя",* — кажа Эсміра Гоман.

Дарэчы, чыноўнікі, з якімі нам удалося пагутарыць, у сітуацыі, што склалася, адназначна абвінавачваюць “Міндаўг” і цалкам адмаўляюць версію пра “помсту за мытныя справы”.

Па словах прэс-сакратара Мінтранспарту, мінчанам будуць прапанаваны альтэрнатыўныя варыянты перамяшчэння, без маршрутак яны не застануцца.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

## Маринича не хотят отпускать на свободу

*Генеральный прокурор Беларуси* ***Виктор Шейман*** *отклонил ходатайство об изменении меры пресечения экс-министру внешнеэкономических связей Беларуси, Чрезвычайному и Полномочному послу Беларуси в Латвии* ***Михаилу Мариничу.***

Об этом адвокату **Вере Стремковской** сообщил сотрудник Прокуратуры Республики Беларусь **Иван Суховерко.** По его словам, для освобождения Маринича *“нет оснований”.*

Напомним, что 21 июля адвокат Маринича Вера Стремковская подала ходатайство генпрокурору об изменении меры пресечения своему подзащитному, который находится под стражей с 26 апреля. Стремковская говорит, что содержать Маринича в СИЗО нет необходимости: статья, по которой он обвиняется (незаконное хранение оружия), не подразумевает обязательное содержание под стражей.

*“Несмотря ни на что, я буду продолжать стучаться в закрытые двери и заявлять новые ходатайства об изменении Мариничу меры пресечения”,* — говорит Вера Стремковская.

В конце минувшей недели Маринича вызывали на допрос.

*“На мой взгляд, Мариничу задавали вопросы, не имеющие отношения к делу,* — рассказывает Вера Валентиновна. — *Это вызвало протест с нашей стороны, и мы заявили отвод следователю на том основании, что допрос проводился вне рамок предъявленного обвинения. При этом многие вопросы выяснялись на предыдущих допросах, но следователь почему-то задавал их снова. Я полагаю, что это умышленное затягивание следствия...”*

По словам адвоката, следователь **Борис Рагимов,** который проводил допрос, раньше вел дело **Павла Шеремета.** Его откомандировали из Гродно и включили в следственную группу, которая ведет дело Маринича.

**Марина КОКТЫШ.**

**РАКУРС**

# Каждый умирает в одиночку

*Наиболее странное в этой истории с закрытием самого престижного в стране негосударственного вуза заключается в том, что это не стало неожиданным. Во-первых, потому, что тучи над Европейским гуманитарным университетом сгущались давно. Во-вторых, все уже привыкли, что у нас регулярно что-нибудь закрывают: газеты, лицеи, исследовательские институты, киоски и т.д.*

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**

На первый взгляд, с рациональной точки зрения никакого смысла закрывать ЕГУ у властей не было. Никакой непосредственной угрозы существующему режиму университет не представлял. ЕГУ подчеркнуто сторонился политики, не был прибежищем оппозиционно настроенных преподавателей (как Белорусский лицей), согласовывал программы с Министерством образования. Среди его учредителей были государственные структуры и лояльная государству православная церковь.

С другой стороны, в последнее время высшая власть значительное внимание уделяла вопросам образования, науки. Только в последние несколько месяцев Лукашенко провел несколько совещаний, посвященных реформе общеобразовательной школы, вступительным экзаменам в вузы и тестированию, принимал ректора БГУ. С большой помпой обсуждается проект по созданию в стране Силиконовой долины. Накануне крупной политической кампании, когда власти стремятся получить поддержку студентов, вузовской и академической интеллигенции, закрывать ЕГУ вроде бы нелогично.

Кроме того, этот вуз — важный механизм сотрудничества с Западом. Университет получал серьезную поддержку от США, Франции, Германии, которые рассматривали его как очаг, символ свободомыслия, демократических ценностей. И его закрытие — это открытый вызов Западу, с которым вроде бы Беларусь, говоря словами из доклада Лукашенко на недавнем совещании с послами, собирается налаживать “стратегическое соседство”.

И тем не менее сработала другая логика. Это логика функционирования авторитарного режима, плавно перерастающего в тоталитарный. Ибо один из важных признаков тоталитаризма — контроль над духовной жизнью общества. А это требует установления во всей системе образования полного единообразия, неприятия европейских ценностей, которые прививались в ЕГУ, ликвидации очагов инакомыслия, полного контроля государства над системой образования. И, кроме того, логика страха перед любым неконтролируемым общественным субъектом. Набравшая силу тенденция начинает действовать по своим собственным законам, которые иногда вступают в противоречие с тактическими интересами власти.. Неслучайно государственные СМИ замалчивают закрытие ЕГУ. Молчит и Лукашенко.

Инициатива Министерства образования о внесении поправок в закон, предусматривающий, что выпускники государственных вузов должны отработать по распределению пять лет (сейчас два года), лишний раз подчеркивает вектор государственной политики в сфере образования — от свободы к крепостному праву.

Ликвидация ЕГУ позволяет вывести несколько уроков. Урок первый. Если возникает конфликт между общественными интересами и интересами власти, последние безоговорочно делают выбор в пользу самосохранения. ЕГУ с его ориентацией на приглашение западных преподавателей, самостоятельную работу студентов, основательное изучение иностранных языков, стажировку за границей стал образцом европейской системы образования в Беларуси. Здесь учили европейскому мышлению. Поэтому университет представлял национальную ценность для страны. Но именно в этом власти учуяли угрозу для себя. В результате не помогло заступничество не только западных послов, но даже и патриарха Филарета, являющегося деканом одного из факультетов ЕГУ.

Урок второй. В последнее время власти проводят основательную зачистку в системе образования и культуры. Происходит вычищение вузов от нелояльных преподавателей, вспомним ликвидацию белорусского лицея, ЕГУ, Международного института политических исследований, Белорусского центра конституционализма и сравнительных правовых исследований. Чуть раньше у Союза писателей были отняты литературно-художественные журналы. Видимо, прав философ, утверждавший, что настоящие революции, действительно опасные для власти, это те, которые касаются общественной мысли. Грандиозный проект по созданию Парка высоких технологий одновременно с зачисткой в гуманитарной сфере, привилегии при поступлении в вузы сельским выпускникам свидетельствуют о стремлении воспроизвести модель советской системы образования: формирование узких специалистов, технократов с минимальной гуманитарной подготовкой.

Урок третий. Невозможно спрятаться от политики, сохранить остров вольномыслия в несвободной стране. Руководители ЕГУ почти демонстративно дистанцировались от политики, оценки существующего режима. Ради сохранения университета его ректор академик А.Михайлов не был замечен в подписании писем протеста против репрессий в отношении структур гражданского общества, он не принимал участия в мероприятиях, которые могли быть расценены как оппозиционные. Более того, в самом ЕГУ избавлялись от преподавателей, публично выражавших негативную оценку официальной политики.

Но ничего не помогло. История в который раз учит, что, как ни сторонишься политики, рано или поздно она займется тобой, и что молчание — не всегда золото. Ибо когда придут за вами, заступиться будет уже некому. А вы все спрашиваете, по ком звонит колокол?

Урок четвертый. Реакция коллектива ЕГУ, особенно студентов, может быть, наиболее адекватно характеризует состояние нашего общества. Известно, что в недемократических государствах студенты — самая активная протестная часть общества. Студенческое вольномыслие — одна из самых славных традиций европейских университетов. И активная гражданская позиция — один из элементов европейского мышления.

Акция студентов и сотрудников ЕГУ против его закрытия была скорее дежурной. Парадоксально, но протесты за рубежом были более активными и решительными, чем в Минске. Студенты написали челобитную Лукашенко и одновременно заявления министру образования о переводе в другие вузы. Видимо, европейская традиция, попадая на нашу почву, автоматически превращается в белорусскую “толерантность”.

А между тем сила власти проистекает из слабости гражданского сопротивления. И это доказывает недавняя история с депутатом В.Парфеновичем, которого попытались исключить из Национального олимпийского комитета. Принимая своего нового помощника Г.Алексеенко, Лукашенко сказал, что в органах НОК не место людям, путающим спорт с политикой. Чиновники бросились выполнять указание: исполком Национального олимпийского комитета исключил Парфеновича из НОК. Но здесь неожиданно в поддержку своего коллеги выступил консультативный совет НОК, куда входят ветераны белорусского спорта. И был дан задний ход: парламентария и спортсмена оставили в покое.

ЕГУ и его ректор Михайлов, ученый европейского уровня, — не меньший символ Беларуси, чем трехкратный олимпийский чемпион Парфенович. И активные и решительные протесты могли заставить власти отступить. Однако гражданская солидарность для Беларуси — это terra incognita. У нас каждый умирает в одиночку.

*(“Белорусские новости”.)*

# Доколе?..

## *Открытое письмо работникам образования, науки, медицины, всем людям доброй воли*

В конце июля власть в очередной раз разразилась самой настоящей площадной бранью, неприкрытыми оскорблениями в адрес достойных людей, имеющих несомненные заслуги перед белорусским обществом. Причем сделала это максимально широко — с помощью телевидения, радио печатных средств массовой информации. Получили свою порцию ругательств и оскорблений наши ближние и дальние соседи.

Глядя со стороны на эту, мягко говоря, неприглядную картину, невольно задаешься простым вопросом, а кто позволил нынешней власти вести себя так нагло? Немного поразмыслив над этим, приходишь к пониманию, что ответ на него прост до банальности. Мы! Да, мы — граждане нашей страны. Мы все упираемся и делаем вид, что ничего не случилось, авось власть сама одумается и неким чудесным образом возьмет да и перевоспитается. А она, не встречая должного отпора, с каждым годом становится все более разнузданной, “отвязанной” и никем и ничем не контролируемой.

И последние примеры служат тому хорошей иллюстрацией. Академика, доктора наук, профессора, бывшего президента Академии наук РБ **Александра Войтовича** походя смешивают с грязью, наносят оскорбления, которые не встретишь даже у базарных торговок — Александр Павлович среди прочих “врагов президента” якобы “хрюкал у кормушки”. Слава Богу, что у того хватило мужества написать в газету “Народная воля” ответное письмо. Но я хочу сказать о другом. А где все наши академики, заслуженные-перезаслуженные ученые, профессора, члены-корреспонденты? Что, они согласны с такой оценкой их коллеги, которого они в свое время избрали президентом Академии наук? Чего они боятся? Неужели они не понимают, что вместе они представляют огромную силу, против которой выпускники заштатных вузов, волею рока оказавшиеся на вершине власти, не смогут и слова толкового сказать в ответ. Поэтому очень хочется спросить нашу интеллектуальную элиту: доколе вы будете сидеть по своим углам и делать вид, что ничего не случилось? Пора вам всем вместе дать отпор зарвавшейся власти и тем самым заставить ее уважать вас.

Профессора **Александра Козулина**, совсем недавно занимавшего кресло ведущего вуза страны — Белгосуниверситета, “опустили” до такой степени, что уже, пардон, дальше некуда, сказав, что того нашли “на помойке”. Но что-то в этой связи не слышно гневной отповеди ректоров остальных вузов, председателем Совета которых Козулин был несколько лет. Где реакция коллектива Белгосуниверситета, который Александр Владиславович возглавлял более 7 лет? Сотрудники БГУ, вас не оскорбляет тот факт, что вами руководил человек, подобранный “на помойке”? Или человеческое достоинство уже для вас пустой звук? Так как же в таком случае вы собираетесь дальше учить студентов разумному, доброму, вечному, смотреть им в глаза, вести воспитательную работу? Неужели у вас ничего не осталось за душой, кроме обыкновенной трусости? Да, одному трудно бороться с авторитаризмом, но вместе вы та сила, которая способна достойно отстаивать свое право на уважение! Чтобы не быть голословным, приведу один пример, который, может быть, поможет вам в преодолении страха. В 1996 году (заметьте, уже при нынешней власти) последняя дала команду исключить из БГУ лидера незарегистрированной организации “Малады фронт” **Павла Северинца.** Как только на географическом факультете про это узнали, сразу начали создавать комитет в его поддержку. В этот комитет вошли как студенты, так и преподаватели. И власть испугалась, отступила. Может, пора нам всем наконец-таки вылезти из норок, объединиться и потребовать от власти элементарного к себе уважения? Доколе?..

Уважаемое руководство России, а доколе вы будете терпеть хамство по отношению к своей великой державе и от кого?.. Проанализируйте материалы официальных средств массовой информации Беларуси за последний год и вы увидите, что Россия стала чуть ли не главным врагом белорусского народа. Что вами движет в слепой постоянной поддержке нынешнего белорусского режима? Президента России всенародно обзывают чуть ли не фашистом, а вы молча проглатываете это оскорбление. Вы думаете, что на бывшем директоре далеко не самого сильного совхоза в Беларуси свет клином сошелся? Доколе?...

Доколе вы будете смотреть на ситуацию в Беларуси через розовые очки? Снимите их, и вы увидите, что у нас масса умных, талантливых, грамотных руководителей, с которыми можно и нужно вести цивилизованный диалог. Когда из своих резиденций были изгнаны послы ведущих мировых держав, казалось, что уж этого зарвавшейся белорусской власти точно не простят. Но прошло немного времени, и те утерлись, тоже сделали вид, что ничего не случилось. Поэтому неудивительно, что в свое время “щемили” офис ОБСЕ, не давали въездных виз отдельным европейским чиновникам и т.д. и т.п. Но и после этого с каким-то мазохистским упорством Европа продолжает сама себя успокаивать, что в Беларуси все делается в рамках цивилизованных отношений.

Отзыв **Утой Цапф** подготовленной жесткой резолюции по ситуации в Беларуси из-за того, что какой-то мелкий парламентский белорусский чиновник что-то там наобещал, стал ярчайшим примером неуважения стремления всего нашего народа к демократическим преобразованиям в стране. Еще не успели высохнуть чернила под непонятными договоренностями влиятельной европейской структуры с практически нигде не признанным “карманным” белорусским парламентом, а наши власти закрывают Европейский гуманитарный университет. Госпожа Цапф начинает издалека грозить пальчиком: мол, нехорошо, так нельзя. Где же она была раньше? Неужели за десять лет так и не сумела понять сущность теперешней белорусской властной верхушки? Доколе?...

Доколе в центре Европы будут хамить и издеваться над людьми, целым народом? Может, настала пора принимать адекватные меры в этой связи?

**Анатолий ПАВЛОВ,**
**проректор Белгосуниверситета в 1995—1997 годах.**

ВОПРОС ПО СУЩЕСТВУ

# Чего так заливаются «пропагандистские соловьи»?

## Пенсии повысили. Но не съедят ли эти надбавки цены и коммунальные платежи?

Есть яркие приметы. Прилетели ласточки — будет тепло. Повысили пенсии в Беларуси и официальные пропагандисты защебетали о заботе власти о народе — скоро выборы.

Это "пропагандистское щебетание" уже достало хуже телевизионной рекламы, уж больно напоминает оно советские времена со знакомой песней: "Пришла весна, настало лето — спасибо партии за это".

Сейчас же повышение пенсий преподносится так, будто это делается сугубо по воле президента. Хотя по закону о пенсионном обеспечении предусмотрено: если зарплата повышается на 15 процентов, то увеличиваются и пенсии. Словом, чиновники лишь выполняют требование закона. При чем здесь президент? Все это должно делаться спокойно и вовремя.

Так за что же спасибо? За нашу пенсию? Даже после повышения минимальный размер трудовой пенсии составляет 84 тысячи 480 рублей, минимальный по возрасту — 32 тысячи 98 рублей.

Представьте, два пожилых человека с такими пенсиями живут в двухкомнатной квартире. В сумме они имеют доход 168 тысяч рублей. Зимой за коммунальные платежи, электричество отдай около сотни тысяч. Что же осталось? По тысяче каждому на день. На еду, одежду, лекарства... И это вы, пропагандистские соловьи, считаете заботой о человеке? В главном мировом документе, Всеобщей декларации прав человека, сказано: *"Каждый человек имеет право на такой жизненный уровень, включая пищу, одежду, жилище, медицинский уход и необходимое социальное обслуживание, который необходим для поддержания здоровья и благосостояния его самого и его семьи, и право на обеспечение на случай безработицы, болезни, инвалидности, вдовства, наступления старости или иного случая утраты средств к существованию по не зависящим от него обстоятельствам".*

Скажите, дает наша пенсия возможность на такое существование?!

Пенсии у нас небольшие. К тому же растут они медленнее, чем зарплата и цены. Так, если в 2002 году средняя пенсия составляла 42,2 процента от средней зарплаты, то в прошлом — только 40,7 процента. Зарплата увеличивается хотя и немножко, но почти ежемесячно. А пенсия — нет. Недавно ответственный чиновник Минтруда заметил, что это второе и последнее повышение пенсий в этом году.

Лишь когда рост зарплаты перевалит за 15 процентов, начинают вспоминать о пенсии. К тому же ежемесячно индексируются коммунальные платежи. Почему же пенсия не индексируется?

В разных регионах разная средняя зарплата. Скажем, в июне средняя месячная зарплата в Минске составила 470 тысяч, а в Брестской области — 312 тысяч рублей, Гродненской — 318 тысяч рублей. Известно, что в столице жизнь гораздо дороже. Размер пенсии рассчитывается от средней зарплаты по стране. А почему не от средней зарплаты по регионам? Раз в Минске зарабатывают больше и жизнь дороже, то и пенсия должна быть выше. Пока же минских пенсионеров просто обижают.

Непонятно также, почему пенсия военных и милиционеров почти в два раза выше, чем у тех, кто всю жизнь проработал на заводе и ферме? Почему госслужащие, которые служат нынешней власти, имеют больше средств, чем те, которые служили бывшей власти? Ведь при них, при советской власти, гражданам жилось лучше, чем нынче. Стало быть, и работали они лучше. Почему это не учитывается при определении суммы пенсии? Так что пенсионеров обижают по многим параметрам.

**Сергей ПЕТРОВ.**




# Вярніце ЕГУ

Каля 400 чалавек узялі ўдзел у акцыі салідарнасці студэнтаў, выкладчыкаў і супрацоўнікаў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, якая прайшла ў Мінску. Мерапрыемства пад лозунгам "Вярніце ЕГУ!" прайшло ў дворыку былога навучальнага корпуса ЕГУ на вуліцы П.Броўкі, 3-а.

Прысутныя развіталіся са сваёй alma mater ля сцен будынка, які на працягу сямі гадоў належаў універсітэту.

Акцыя пачалася з калектыўнага выканання сярэднявечнага гімна студэнтаў "Gaudeamus", пасля чаго слова было дадзена членам рэктарата, выкладчыкам, студэнтам і выпускнікам ЕГУ. "Не цаглінамі слаўны універсітэт, а духам сваім, і мы даказалі, што дух гэты моцны", — сказаў першы прарэктар ЕГУ Уладзімір Дунаеў. Ён паведаміў, што рэктар ЕГУ Анатоль Міхайлаў прыняў рашэнне аб стварэнні "універсітэта ў выгнанні".

**Павел СВЯРДЛОЎ.**
**Фота photo.bymedia.net**

ТРЫВОЖНА

# Не вярнуліся з работы

***У першым паўгоддзі 2004 года ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінула 135 чалавек.***

Як паведамілі ў дэпартаменце дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у першым паўгоддзі 2003 года загінуўшых на вытворчасці было на 33 чалавекі меней.

Рост такіх здарэнняў дапушчаны ў арганізацыях міністэрстваў сельскай гаспадаркі і харчавання, архітэктуры і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, прамысловасці, энергетыкі, лясной гаспадаркі, адукацыі, сувязі і інфарматызацыі, а таксама канцэрнаў "Беллеспаперапрам", "Беллегпрам" і "Белбіяфарм".

У параўнанні з аналагічным леташнім перыядам таксама павялічылася колькасць работнікаў, якія атрымалі траўмы з цяжкім зыходам — 487 супраць 392.

За паўгоддзе адбыўся 31 групавы няшчасны выпадак, у выніку якога пацярпела 89 чалавек, з іх 21 загінуў і 31 атрымаў траўмы з цяжкім зыходам.

Асноўнымі прычынамі траўматызму з цяжкімі наступствамі з'явіліся нездавальняючае ўтрыманне і недахопы ў арганізацыі працоўных месцаў; эксплуатацыя няспраўных машын, механізмаў і абсталявання, што не адпавядаюць патрабаванням бяспекі; недахопы ў навучанні і інструктаванні пацярпелых па ахове працы, парушэнне пацярпелымі працоўнай і вытворчай дысцыпліны, нарматыўных актаў па ахове працы, а таксама невыкананне кіраўнікамі і спецыялістамі абавязкаў па ахове працы.

Аналіз паказвае, што ў стане алкагольнага ап'янення знаходзілася 48,2 працэнта тых, хто атрымаў траўмы са смяротным зыходам, і 16,7 працэнта тых, хто атрымаў траўмы з цяжкім зыходам.

# Тысячы парушэнняў

За першае паўгоддзе ў Беларусі выяўлена больш за 180 тысяч парушэнняў заканадаўства аб працы і ахове працы. Як паведамілі БелаПАН у дэпартаменце дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, з-за парушэнняў патрабаванняў аховы працы прыпынялася (забаранялася) праца 42 цэхаў, 385 вытворчых участкаў і 10 тыс. 826 адзінак станкоў, машын і іншага вытворчага абсталявання.

Па матэрыялах дзяржаўных інспектараў працы да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнуты 1 тыс. 499 службовых асоб, адхілены ад працы 3 тыс. 510 работнікаў, вызвалены ад працы 67 службовых асоб, 39 — прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Па патрабаванні дзяржінспектараў 69 работнікаў, звольненых з парушэннем заканадаўства аб працы, адноўлены на працы. За вымушаныя прагулы і ў выніку аднаўлення іншых парушаных правоў работнікаў на іх карысць спагнана 424 млн. 400 тыс. рублёў.

За парушэнні заканадаўства аб працы і ахове працы прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 5 тыс. 74 службовыя асобы, з іх спагнана 123 млн. 500 тыс. рублёў, прыменены санкцыі да 3 тыс. 741 наймальніка на суму 535 млн. 600 тыс. рублёў.

Падчас ажыццяўлення дзяржнагляду і кантролю за выкананнем патрабаванняў заканадаўства па забеспячэнні суб'ектамі гаспадарання своечасовай выплаты заработнай платы і прыняцці мер па прадухіленні і ліквідацыі прычын стварэння запазычанасці з пачатку 2004 года па 30 чэрвеня 2004 года дэпартаментам устаноўлены парушэнні тэрмінаў выплаты зарплаты ў 2 тыс. 25 арганізацыях. Па выніках праверак да 911 наймальнікаў прыменены санкцыі на суму 107 млн. рублёў, вынесена 900 пастаноў аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці кіраўнікоў і іншых службовых асоб на суму звыш 30 млн. 800 тыс. рублёў, 279 наймальнікаў папярэджаны аб недапушчальнасці парушэнняў заканадаўства аб працы.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

# По беднякам — социальным стандартом

*В последнее время представители власти и их пропагандисты заговорили о социальных стандартах. Дескать, надо создать их, чтобы защитить бедные слои населения от неприятностей рынка.*

В апреле прошлого года Александр Лукашенко провел совещание о едином нормативе социального стандарта по обслуживанию населения, на котором заявил, что создание в Беларуси стройной системы защиты социальных интересов каждого человека и ее последовательная реализация — самая главная задача, которая стоит перед властью и лично главой государства. "Это будет целью и смыслом моей дальнейшей жизни в качестве Президента", — заявил тогда он, сообщает пресс-служба Александра Лукашенко на его сайте.

Далее в этом сообщении говорится, что самый больной для власти вопрос сегодня — вопрос защиты населения, особенно уязвимых в это сложное время слоев — инвалидов, детей, пенсионеров — от неблагоприятных последствий рыночных преобразований. Поэтому, по мнению президента, должна быть выстроена четкая система стандартов, определяющих виды и качество важнейших социальных услуг в области образования, здравоохранения, физической и духовной культуры, жилищно-коммунального хозяйства, торговли, транспорта, связи, бытового обслуживания, которые будут гарантированно оказываться бесплатно. Люди должны почувствовать, что власть не просто урывками старается помочь, а системно защищает таких граждан, отметил белорусский лидер. Обращаясь к руководителям органов государственного управления, он подчеркнул: мы должны поддержать наших людей, а люди должны реально почувствовать, что государство их защищает.

О том, как их государство защищает, недавно узнали жители Солигорска. Сайт praca-by.info сообщает: на 10 процентов сокращается количество больничных коек в Солигорском территориальном медицинском объединении. Они оказались лишними в связи с введением социального стандарта в области здравоохранения, который предусматривает наличие девяти коек на одну тысячу жителей. Жители Солигорска недоумевают, ведь еще до сокращения больным часто отказывали в госпитализации именно по причине нехватки свободных больничных коек. Пропорционально сокращаемому количеству коек предполагается уменьшить и число медработников.

Уже сегодня более-менее зарабатывающие люди серьезные хвори предпочитают лечить в современных медицинских центрах, где к клиенту относятся уважительно хотя бы потому, что он платит деньги и порой немалые. А к участковому врачу идут за больничным при ОРЗ или гриппе и никаких иллюзий насчет внимательного отношения к себе не питают. Да и врачи в поликлиниках какие-то обиженные сидят, мол, как платят, так и лечим. Тем не менее многие наши граждане свои болячки лечат лишь в государственных медучреждениях, ибо не имеют средств, чтобы обращаться в платные медцентры. Однако, как видим на примере Солигорска, бесплатные услуги сокращаются. То ли местные власти не слышали указание Александра Лукашенко, то ли представители власти озвучили их лишь в пропагандистских целях.

**Сергей ИВАНОВ.**

*Митинг предпринимателей Солигорска на стадионе "Строитель".*

**Фото photo.bymedia.net**

# Тэлефон для ветэрана

Да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў РА "Белтэлекам" больш чым на 50 працэнтаў выканала "Праграму тэлефанізацыі дамоў (кватэр) інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і яе ўдзельнікаў старэй за 70 гадоў на 2003-2004 гады". Праграма, распрацаваная Міністэрствам сувязі Беларусі, рэалізуецца з сярэдзіны мінулага года і прадугледжвае ў цэлым устаноўку 3766 тэлефонаў для гэтай катэгорыі насельніцтва Беларусі. Завяршыць рэалізацыю праграмы плануецца да 7 лістапада гэтага года. Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік генеральнага дырэктара РА "Белтэлекам" Генадзь Мельнікаў.

Ён падкрэсліў, што размова ідзе пра ўстаноўку тэлефонаў у тых інвалідаў і ветэранаў ВАВ, якія падалі заяўкі да 1 ліпеня 2003 года — гэта значыць да пачатку рэалізацыі праграмы. Задаволіць заяўкі на тэлефанізацыю ад гэтай катэгорыі насельніцтва, якія паступілі пазней, плануецца да 9 мая 2005 года.

"Затраты на рэалізацыю праграмы складаюць 10 млрд. рублёў, і фінансаванне ажыццяўляецца за кошт сродкаў "Белтэлекама", — адзначыў Г.Мельнікаў. — Спадзяюся, што і нашы мабільныя аператары "МЛС", "МТС" і "БелСел" возьмуць актыўны ўдзел у рэалізацыі сацыяльнай праграмы РА "Белтэлекам" па задавальненні патрэб удзельнікаў вайны ў паслугах тэлефоннай сувязі ў зонах упэўненага прыёму".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

# Суд решил...

Суд Ленинского р-на г.Минска
**РЕШИЛ:**

Признать не соответствующими действительности, порочащими честь и достоинство Атрощенко Сергея Олеговича, распространенные в статье "Какому бизнесу в Беларуси хорошо?", автора Марины Коктыш, опубликованной в газете "Народная воля" 23 октября 2003 года, сведения: "работает на Президента и, как известно имеет властную крышу. "...Такой вид бизнеса во всех странах мира называется "бизнес под прикрытием", "Высказывания Атрощенко за пределами комментариев в рамках здравого смысла. Я не понимаю таких патриотических повизгиваний". "Условия для развития бизнеса в нашей стране сегодня идеальны для тех "бизнесменов", которые как лакеи обслуживают нынешний режим.

Суд Ленинского р-на г.Минска
**РЕШИЛ:**

Признать порочащими деловую репутацию редакции газеты "Обозреватель" название статьи "Как "Обозреватель" Сергея Атрощенко по — бандитски обошелся с Леонидом Левиным", а также следующие фразы: "А связаны неприятности с недавним появлением в тенденциозной газетенке "Обозреватель" его интервью". "Леонид Левин считает, что газета Сергея Атрощенко поступила с ним по-бандитски", опубликованные в газете "Народная воля" от 3 сентября 2003 года.

# Крадуць цялят

Шэсць цялят агульнай вагой 270 кілаграмаў выкралі невядомыя ў сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве "Крошын". Заяву аб гэтым зрабіў у Баранавіцкі РАУС кіраўнік гаспадаркі.

Цяляты знаходзіліся на агароджанай пашы паблізу ад фермы вёскі Крошын. Хутчэй за ўсё іх вывезлі на аўтамабілі, сляды шын якога знайшла аператыўная група, што прыбыла на месца здарэння. Паша ноччу ахоўваецца вартаўніком, аднак падчас здарэння ён адсутнічаў. Гаспадарка ацаніла прычынены ўрон у 675 тысяч рублёў. Распачата крымінальная справа па артыкуле 205 частка 1 (крадзеж) Крымінальнага кодэкса. Супрацоўнікі праваахоўных органаў вядуць пошук выкрадзенай жывёлы і саміх выкрадальнікаў.

За апошнія два месяцы гэта ўжо другое аналагічнае здарэнне ў Баранавіцкім раёне. На пачатку чэрвеня ў закрытым акцыянерным таварыстве "Шчара-Агра" таксама ноччу і таксама з загону жывёлы на пашы паблізу ад вёскі Валахва невядомы выкраў 10 цялят на суму 1 млн. 110 тыс. рублёў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

ЁСЦЬ ПРАПАНОВА

# Як вярнуць «згарэўшыя» зберажэнні?

У людзей "згарэла" ў ашчадных банках шмат сродкаў. Вярнуць людзям іх кроўныя грошы, захаванне якіх было гарантавана дзяржавай, справа гонару. Заява Аляксандра Лукашэнкі, што гэта будзе зроблена, выклікала ў людзей надзею на справядлівасць.

Але людзі насцярожана, а то і недаверліва ставяцца да падобных заяў. Падставы ёсць. Беларускі народ нярэдка пакідалі "ў дурнях". Хаця б з тымі ўкладамі на вельмі дарагія рэчы, з чэкамі "Маёмасць".

І ў праекце закона, які дэпутат У.Навасяд збіраецца ўнесці на разгляд Палаты прадстаўнікоў, ужо закладзена "бомба". Што значыць: "гэтыя выплаты дзяржава можа замяніць акцыямі прадпрыемстваў або разлічыцца з грамадзянамі праз прадастаўленне падатковых ільгот на адпаведную суму"? Гэта значыць, што людзям могуць даць пустыя акцыі накшталт пустых "ваўчараў". Па гэтых акцыях яны на прадпрыемствах-банкротах, несумненна, атрымаюць, як кажуць, "фігу без масла". І як гэта так: здавалі грошы на захаванне дзяржаве, а атрымаць павінны нейкія акцыі прадпрыемстваў?

Ці не атрымаецца, як у той прыпеўцы:

*Завтра праздник — воскресенье.*
*Бабы пышек напекут,*
*И помажут, и покажут,*
*Только кушать не дадут.*

Быццам зробяць свята. Нешта "спякуць" у форме акцый. А грошай не дадуць. Так нельга! Такога няма нідзе ў свеце. Узялі ў народа грошы — аддайце іх.

Каб не здарылася неверагоднае, каб правесці складаную аперацыю хоць раз арганізавана і сумленна, лічу і прапаную зрабіць так.

Трэба найперш вызначыць, што такое зберажэнні. Да іх, безумоўна, належыць аднесці ўклады ў ашчадныя касы да распаду Савецкага Саюза, гэта значыць — да 1 студзеня 1992 года. Паколькі зберажэнні мяркуецца вярнуць на працягу 2006—2011 гадоў, то мэтазгодна ўстанавіць такі парадак. У 2005 годзе правесці падрыхтоўчую работу: пералічыць сумы ўкладаў на кожнай ашчаднай кніжцы, аформіць усю патрэбную дакументацыю. У 2006 годзе вярнуць належныя сумы (запісаць іх у ашчадных кніжках) укладчыкам, якія старэй за 60 гадоў, у 2007-м — старэй за 50, у 2008-м — за 40, і г.д. За першыя пяць гадоў з кніжкі дазваляецца зняць наяўнымі штогод не больш як 2.000.000 рублёў.

Разумна будзе, і, на мой погляд, укладчыкі пагодзяцца з наступным. На пакупку вельмі дарагіх рэчаў банк па заяве ўкладчыка павінен будзе пералічыць іх кошт непасрэдна магазіну. Па жаданні ўкладчыкаў усе яны могуць набываць акцыі. Без абмежавання колькасці, вядома.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

КРЫМІНАЛ

# Чорны паясок з узорам

Зінаіда наліла ў міскі заціркі, паставіла на кухонны стол, і, перагнуўшыся праз акно, гукнула ў вячэрнюю прахалоду вёскі: Андрэй, кліч Толіка і марш вячэраць! Не забывайцеся, што нам заўтра кароў пасвіць. Пабуджу рана.

Дзевяцігадовы Андрэйка, калі рамантаваў на падворку веласіпед, занёс у гараж нейкія запчасткі, памыў ля калодзежа рукі і накіраваўся на вуліцу, дзе гаманіла вясковая дзятва. Малы брацік Толік, якому ўсяго шэсць гадкоў, павінен быць там. Але, як ні дзіўна, сярод вясковых хлапчукоў, якія ганялі мяч, яго не аказалася.

— Дзе наш малы? — падышоўшы да аднаго з іх, запытаў Андрэйка.

— Не ведаю, — пацісну ў худзенькімі плечукамі хлопчык, падбіваючы мяч сагнутай у калене нагой і ўтаропіўся на Андрэйку.

— Гэй, Рыжы, не затрымлівай мячык! — крыкнулі на яго з вялікай незадаволенасцю ў некалькі галасоў, бо па яго віне спынілася гульня.

— Пачакайце, — страсянуў той выгаралымі на сонцы валасамі. — Толіка не бачылі?

— Не бачылі, — адказаў за ўсіх самы большы хлапчук.

Андрэйка быў упэўнены, што раз Толіка не бачылі дзеці, то ён, няйначай, пабег да бацькі на збожжасушылку. Там цяпер круглыя суткі кіпіць работа: жніво на двары.

Не ўбачыўшы брацікa ў памяшканні, ён паклікаў бацьку на двор, бо з-за гулу матораў нічога нельга было пачуць.

— Толік тут?

— Не, — адказаў бацька. — Можа, дзе з дзецьмі бегае.

— Няма яго з дзецьмі, — прамовіў Андрэйка, і ў яго душу халоднай вужакай пачаў запаўзаць страх.

— Знойдзецца, — махнуў рукой бацька і пайшоў займацца сваімі справамі.

Тым часам на зямлю насоўваўся прыцемак. Зінаіда, падаіўшы карову, вярталася ў хату з вядром сырадою. Убачыўшы ў брамцы аднаго Андрэйку, і ў яе нядобра таўханулася сэрца.

— Няма яго нідзе, мама. — Як ні стрымліваў сябе, у голасе пачулася трывога. — І ў дзяцей пытаў, і да таты на зернеток хадзіў — нідзе няма.

— А калі ты яго бачыў?

— Ён паабедаў і пабег з хаты.

— Можа, у Сашкі, — выказала меркаванне маці, маючы на ўвазе суседскага хлопчыка — аднагодка Толіка.

— Няма іх дома. Недзе паехалі. Я сам бачыў.

Паставіўшы ў сенях непрацэджанае малако, Зінаіда кінулася на вуліцу. Ногі яе падкошваліся, у горле перасохла. Яна ўжо ўсвядоміла, што з малым здарылася нешта нядобрае, бо ніколі з сынам такога не было, каб дзенебудзь бегаў, не папярэдзіўшы маці ці бацьку.

— Бяжы на зерняток, скажы тату, — загадала Андрэю, а сама кінулася да сястры. Хутка падышлі, невядома як пачуўшы пра бяду, суседзі. Пад'ехаў ад зерняткa на матацыкле сам гаспадар.

— Што рабіць, Кастусь? — у роспачы пытала жонка, — прапаў наш Толічак.

— У міліцыю трэба паведаміць, — параіў нехта з натоўпу.

Пайшлі да хаты брыгадзіра, дзе быў адзіны на ўсю вёску тэлефон.

Міліцыянеры не прымусілі сябе доўга чакаць. На машыне прыехалі чатыры чалавекі. Усё распыталі, прынялі рашэнне:

— Будзем шукаць, — сказаў старшы з іх і тут жа запытаў: — А да сваякоў, скажам, да бабулі ён не мог уцячы?

— Не, мае дзеці на такія ўчынкі не здольныя, — ламаючы ад гора рукі і не бачачы за слязамі свету, прамовіла Зінаіда. — З ім здарылася нешта страшнае. Я гэта адчуваю, я ведаю...

Начныя пошукі нічога не далі, хоць людзі абхадзілі ўсю ваколіцу, гукалі, клікалі хлопчыка. Толькі рэха было ім адказам.

Назаўтра раніцай учарнеўшая ад гора Зінаіда разам з іншымі пайшла на пошукі ў бліжэйшы лес. Аблазілі кусты ля чыгункі, але нічога, што б паказвала на след хлопчыка, так і не знайшлі.

Вясковая дзятва, устрывожыўшыся і кінуўшы свае гульні, таксама падключылася да справы. Усё марна.

Аб знікненні хлопчыка зрабілі паведамленне па мясцовым радыё. Перадалі вестку ў абласную міліцыю. Але малы знік бясследна.

Міналі дні. У калгасе закончылі жніво. Зінаіда, якая працавала памочнікам брыгадзіра, неяк і не заўважыла гэтага. Акамянелая ад гора, яна ўжо не магла ні плакаць, ні спаць, ні есці.

— Розум страціць, бедная, — спачувалі суседкі і спрабавалі загаварыць з ёй то пра адно, то пра другое. Кабета ні на што не рэагавала. Не паварушылася яна і тады, калі аднойчы надвячоркам у хату ўбег устрывожаны Андрэйка. У дрыжачых руках ён трымаў чорны паясок з узорам. Толікаў паясок. Хлопчыку падарыў яго дзядзька, што мінулым летам прыязджаў з Мурманска. Малы вельмі любіў гэты паясок і амаль не разлучаўся з ім. Асабліва яму падабалася, што на пражцы быў маленькі якар.

— Мама, глядзі! — крануўшы за плячо няшчасную маці, прамовіў Андрэйка.

Яна зірнула і адразу ж адвяла позірк патухлых, нежывых вачэй. Шчокі, яшчэ нядаўна такія круглыя і румяныя, уваліліся, сталі шэрыя.

— Толікаў, паясок, мамачка! — ледзь не плачучы, даводзіў ёй сын.

Нешта жывое варухнулася ў мацярынскіх вачах. Яна аж задрыжэла ўся, абедзвюма рукамі схапіла паясок і прыпала да яго вуснамі.

— Сыночак, Толічак, адгукніся, адкажы ці з таго свету, ці з гэтага. Я не вытрымаю без цябе! І неба чорнае, і сонца чорнае, і кветкі чорныя цвітуць...

Яна памаўчала і раптам усхапілася з зэдліка.

— Дзе ўзяў? Дзе ты яго ўзяў?! — вырваўся з грудзей крык, у якім перапляліся боль, жалоба, страх і роспач, спавітыя тоненькімі нітачкамі надзеі.

— Сабака суседскі, Сашкаў, на вуліцу выцягнуў і валтузіўся ля іхніх варот. А я якраз ішоў міма.

Кліч бацьку, кліч людзей, няхай звоняць у міліцыю! — крыкнула Зінаіла і без прытомнасці асунулася на падлогу.

...Хварэла яна доўга і на судзе забойцаў сына не была, не чула прызнанняў, якія давалі прыпёртыя фактамі злачынцы. Па тым чорным паяску следчыя хутка знайшлі іх.

...Бацькі малога Сашы Лапшука, раніцай завёзшы на матацыкле сына да бабулі ў суседні раён, у поўдзень вярнуліся назад. Паколькі абое былі ў адпачынку, вырашылі пацешыць сябе спіртным. Па дарозе заехалі ў райцэнтр, набралі гарэлкі. Ні Тамара, ні тым больш Мікалай ніколі не супраць былі кульнуць чарку, а тут такая прычына — водпуск. Разамлелы ад гарачыні і ад выпіўкі Мікалай, як і заўсёды ў такіх выпадках, пачаў падазраваць жонку ў нявернасці. Яна абразы не сцярпела і давай паліваць славесным брудам мужа. Ведаючы, што дабром справа не скончыцца, памкнулася да дзвярэй. Мікалай схапіў за ножку табурэтку і запусціў у жонку. І якраз у гэты момант дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся Толік. Хлопчык не ведаў, што яго сябрука няма дома, прыйшоў да яго пагуляць. Табурэтка з усяго размаху ўрэзалася ў кволае цельца, вуглом якраз у вісок. Толік памёр на месцы.

П'яныя Тамара і Мікалай знямелі. Страх скаваў іх.

Потым яна залемантавала, вырачыўшы вочы:

— Што ты нарабіў, зараза? Што цяпер будзе?!

— Змоўкні, падла! Усё з-за цябе. Сама ж ведаеш, што не хацеў...

Як толькі асансавалі сваё становішча, хмель зляцеў з іх, як пажоўклае лісце з дрэў. Вырашылі дзейнічаць. Распранулі хлопчыка і ў асобны вузельчык склалі яго вопратку, каб потым, у лесе, далёка ад гэтых мясцін, спаліць і закапаць. Голы трупік закруцілі ў посцілку і, дачакаўшыся вечара, паклалі ў каляску матацыкла. Замкнулі хату і выехалі з двара. Якраз у гэты час Андрэйка ўжо лётаў па вёсцы ў пошуках брацікa...

Заехаўшы ў суседні раён, яны спалілі ў лесе Толікаву вопратку, папярэдне абліўшы яе бензінам, а потым попел і труп хлопчыка закапалі ў яму. Нацягалі ламачча, расклалі вогнішча. Да поўначы сядзелі ў глухім лесе і чакалі, пакуль на тым месцы, дзе капалі, набярэцца добрая куча попелу.

Пагасціўшы некалькі дзён у Тамарынай маці, дзе ў той час быў іхні Сашка, спакойна вярнуліся дадому.

Усё прадугледзелі забойцы, але, спяшаючыся, згубілі чорны паясок з узорам...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

КОЛОНКА ЮРИСТА

**Ведущий рубрики Олег Волчек ждет ваших вопросов**

## В подвале запрещается...

***В нашем доме № 31 по ул.Заславской в подвальном помещении разместилась служба УП "Зеленстроя". Я неоднократно писал жалобы в администрацию района, что работники мешают нам проживать. Имеет ли право администрация района размещать в подвальных помещениях какие-либо службы?***

**И.И.Савицкий, Минск.**

Согласно п.12 Правил пользования жилыми помещениями, все подсобные и вспомогательные помещения жилого дома запрещается загромождать какими-либо предметами, хранить взрывоопасные, отравляющие, загрязняющие и легковоспламеняющиеся вещества с нарушением правил хранения, а также выполнять другие ремонтные работы, связанные с изменением архитектурно-планировочных решений зданий. Подвальные помещения по проекту не могут быть переделаны под какие-либо бытовки, мастерские или склады по хранению строительного или иного инвентаря, тем более, чтобы в них хранились газонокосилки и горюче-смазочные масла. Любое переоборудование нежилых помещений должно осуществляться при условии соблюдения законных прав и интересов всех жильцов и собственников дома.

В данном случае УП "Зеленстрой" не имеет права находиться в данном помещении, поскольку для этого необходимо получить не только согласие всех собственников многоквартирного дома, но разрешение пожарной и санитарно-эпидемиологической службы. А учитывая, что подвал переоборудован под совсем другое предназначение, то, согласно Положению о порядке осуществления ремонта и реконструкции жилых помещений, необходимо решение Минского городского исполнительного комитета.

Здесь нарушаются права не только Ваши, но и всех жильцов, поскольку, если арендуется официально помещение, то арендатор также будет делать отчисления на капремонт дома, за электроэнергию, воду. В данном случае он за это не платит, а пользуется этими услугами за счет жильцов. Для того чтобы в подвале были какие-либо бытовые помещения, для этого должны быть установлены специальная вентиляция, звукоизоляция, проведено дополнительное освещение, сделан туалет и соблюдены другие санитарные нормы для того помещения. Следует обратиться в надзорные органы, которые в силу своей компетенции (прокурор района, председатель Мингорисполкома, начальник пожарной службы и другие) могут принять меры в отношении УП "Зеленстрой", при этом привлечь к административной ответственности за самовольное переоборудование помещения.

## Муж погиб на работе

***Мой муж работал на предприятии. В результате ряда нарушений, допущенных работниками предприятия, мой муж погиб. После несчастного случая мне пообещали выделить комнату в общежитии, но комната мне до сих пор не выделена. Что я могу предпринять, чтобы получить хотя бы какую-нибудь компенсацию в связи со смертью мужа.***

**А.В.Коршунова, Минская область.**

Согласно ст.435 Трудового кодекса, в случае смерти потерпевшего (кормильца) право на возмещение вреда имеют:

1) нетрудоспособные лица, состоявшие на иждивении умершего или имевшие ко дню смерти право на получение от него содержания;

2) ребенок умершего, родившийся после его смерти;

3) один из родителей, супруг или другой член семьи независимо от его нетрудоспособности, который не работает и занят уходом за находящимися на иждивении умершего его детьми, внуками, братьями и сестрами, не достигшими четырнадцати лет либо достигшими указанного возраста, но по заключению медицинских органов нуждающимися по состоянию здоровья в постороннем уходе;

4) лица, состоявшие на иждивении и ставшие нетрудоспособными в течение 5 лет после его смерти.

В данном случае применима норма законодательства, которая регулирует возмещение вреда одному из родителей, супругу либо другому члену семьи, занятому уходом за находившимися на иждивении умершего его детьми, внуками, братьями и сестрами, до достижения ими четырнадцати лет, т.е. Вы можете обратиться в суд с заявлением о возмещении вреда в связи со смертью кормильца.

